Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

30 студзеня — 5 лютага 1999 года
№ 5 (163)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### Працэс пайшоў...

У Брэсцкай вобласці поўным ходам ідзе падрыхтоўка да выбараў у мясцовыя Саветы, якія назначаны на 4 красавіка. Створаны акругі па выбарах у райгарсаветы, у абласны Савет, а таксама выбарчыя камісіі па выбарах дэпутатаў аблсавета.

Так, у Івацэвіцкім раёне зацверджаны тры такія камісіі, у якой па дзевяць чалавек. Як і ў савецкія часы, камісіі ў абавязковым парадку ўзначальваюць толькі чыноўнікі, іншым радавым асобам такую пасаду не давяраюць. Такім чынам, выбарчая карусель набірае разгон.

Як сказаў былы вядомы палітычны дзеяч, працэс пайшоў.

### Чакаецца эпідэмія грыпу

Эпідэмія гэтай каварнай хваробы, якая заўжды праяўляе сябе ў зімовы перыяд, падыходзіць да мяжы нашай рэспублікі, нашага рэгіёна. Інфармацыйныя, медыцынскія службы паведамляюць, што цэнтр эпідэміі знаходзіцца на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, адкуль да нас рукою падаць. А як справы з гэтай хваробай у Івацэвіцкім раёне? Вось што паведаміў "Газеце для вас" **загадчык эпідэміялагічнага аддзела РЦГЭ В. В. ЧЫЖ**:

— На сённяшні дзень колькасць захварэўшых на грып перавышае звычайныя паказчыкі ў 1,5—2,0 разы, што блізка да нормы. Гаварыць пра эпідэмію можна тады, калі колькасць захварэўшых будзе большай за звычайныя лічбы ў 3—4 разы. У гэтым годзе масавыя захворванні на грып мы чакалі ў сярэдзіне студзеня, але ўсё абышлося.

Тым не менш, прагназуецца ўспышка гэтай хваробы ў пачатку лютага. Таму вельмі важна кожнаму з нас паклапаціцца аб сваім здароўі загадздя, выконваць супрацьгрыпозныя рэкамендацыі, якія, я ўпэўнены, вядомы ўсім. Вельмі важна, каб рацыён дарослага і дзіцяці змяшчаў як мага больш вітамінаў, звычайныя цыбулю і часнык, памяшканні праветрываліся, чалавек адпачываў належным чынам, не знясільваўся. Грып, як правіла, выбірае аслабелы, стомлены арганізм. У гэтым годзе чакаюцца самыя звычайныя, добра вядомыя нам вірусы А і Б.

### Жылі-былі пенсіянер з пенсіянеркай

63-гадовую пенсіянерку з вёскі Даманава знайшлі мёртвай ва ўласным доме. Судова-медыцынская экспертыза ўстанавіла, што жанчына памерла ад вялікай страты крыві, выкліканай паражэннем печані вострым прадметам.

На першым допыце муж ахвяры сказаў, што ён, вярнуўшыся з бальніцы, застаў жонку ў нецвярозым стане, якая ляжала на падлозе. Ён яе перанёс на ложак, даліў гарэлку, што стаяла на непрыбраным стале, узяў нож і пайшоў да жанчыны. Чым закончылася "выхаванне", ён не памятае.

### Юны рабаўнік

37-гадовага жыхара вёскі Коланск, які прыехаў у Целяханы, заступіў дзесяцікласнік мясцовай школы і пазбавіў яго 5 мільёнаў рублёў. Як запісана ў міліцэйскім пратаколе, падлетак "прымяніў фізічнае насілле". Скакаць ад радасці, што ў руках жаданыя мільёны, юнаму рабаўніку не дала міліцыя. Грошы яна забрала, супраць яго ўзбуджана крымінальная справа.

ФОТАСЮЖЭТ



### Студзень — цёплы, а люты?

Якім быў сёлетні студзень з пункту гледжання спецыяліста? Якім чакаецца люты? Вось што адказала нам на гэтае пытанне **загадчыца Івацэвіцкай метэастанцыі А. М. БАБЫЛЁВА**:

— Першыя дзве дэкады студзеня і першая пяцідзёнка трэцяй сапраўды былі на 4 градусы вышэй за норму. Але ці наўрад гэта кагосьці моцна ўразіла: мы ўжо прызвычаіліся да цёплых зім. Больш таго, у некаторыя мінулыя гады студзень быў яшчэ цяплейшым.

Абсалютны максімум у нашых Івацэвічах — + 10С°. У гэтым годзе зафіксавана +8С°.

... Што тычыцца лютага, то ён, на мой погляд, будзе блізкім да нормы, гэта значыць, трошкі халаднейшым, чым сёлетні студзень.

БЯРОЗА

### Дазволаў на пікеты не даюць

6 студзеня г. г. старшыня Бярозаўскай раённай рады Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне" С. Русецкі падаў заяву ў райвыканкам з просьбаю даць дазвол на правядзенне 24 студзеня пікету ў абарону незалежнасці Беларусі, супраць падзення ўзроўню жыцця, у якой браў на сябе адказнасць за арганізацыю пікету. Трэба адзначыць, што на працягу 1998 г. Бярозаўскі райвыканкам ні разу не даў дазволу на правядзенне пікетаў. Папярэднім разам быў забаронены пікет, прымеркаваны да 50-годдзя прыняцця ААН Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека. Тады гэта тлумачылася тым, што ад месца правядзення пікету да тэрыторыяў школы і дзіцячай дашкольнай установы меней 50 м. Хоць і незразумела, як пікет у нядзелю мог перашкаджаць "жыццядзейнасці насельніцтва" ў гэтых установах: яны ў нядзелю не працуюць.

На гэты раз заяўленае месца было перанесена на 30 метраў далей, каб вытрымаць патрабаванне аб 50 м. Выказвалася магчымасць пераносу месца пікету ў прапанаванае райвыканкамам. Аднак старшыня райвыканкама сп. Ілля Малейцін адмовіў у правядзенні пікету "в связи с отсутствием письменного обязательства организатора по обеспечению организации пикета и что форма мероприятия не соответствует целям, изложенным в заявлении", спасылаючыся на арт. 2, 5, 7 адпаведнага закону. Юрыст райвыканкама адмовіўся патлумачыць адмову. Хоць вусна ў свой час было аб'яўлена, што адказ будзе адмоўным.

З'яўляючыся сябрам ініцыятыўнай групы па стварэнні Бярозаўскага аддзялення Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96", заяўляльнік пікету падаў заяву ў Бярозаўскі суд з просьбаю абскардзіць адмову, як неабгрунтаваную.

ПРУЖАНЫ

### "Дзелавая жанчына"

Такі клуб існуе ў Пружанах. Кіруе ім старшыня раённага Савета дэпутатаў Я. І. Замковіч.

На тых пасяджэннях, што ўжо адбыліся, жанчыны-кіраўнікі розных рангаў абмяркоўвалі важныя пытанні сённяшняга жыцця, гаварылі пра беспрацоўе, ахову правоў дзіцяці, сацыяльную абарону найбольш пакрыўджаных слаёў насельніцтва.

Члены клуба наведалі акцыянернае таварыства "Дываны Брэста", каб пазнаёміцца з сацыяльна-бытавой сферай прадпрыемства. Усё лепшае, што тут пабачылі, жанчыны-кіраўнікі пастараюцца ўкараніць у сябе на Пружаншчыне.

БАРАНАВІЧЫ

### "Алеся" предлагает...

Официальное открытие фирменного магазина Барановичской швейной фабрики состоялось 5 января. Называется он "Алеся". 90 процентов его ассортимента — продукция швейной фабрики. Кроме того, магазин предлагает покупателям швейные и трикотажные изделия, обувь, парфюмерию, изготовленные на других белорусских предприятиях.

Продукция городской швейной фабрики пользуется высоким спросом не только у горожан, но и у жителей республики. И это неудивительно. Изделия швейной фабрики отличает качество пошива и доступные цены. Добро пожаловать!

### Гости из Польши

Недавно Барановичи посетила съёмочная группа телевидения "Полония". Гости хотели как можно больше узнать о том, в каких условиях живут и трудятся белорусские поляки. Кстати, 5 процентов жителей Барановичей составляют поляки.

Особенно гостей заинтересовала работа Польского клуба. Побывали они и в других местах. А главным результатом визита ТВ "Полония" станет цикл телевизионных программ "Еженедельник Беларуси", первый из которых увидел свет уже 24 января этого года.

### Падкідыш пад балконам

Суботнім вечарам жыхар аднаго з дамоў па вуліцы Жукава ў Баранавічах знайшоў пад балконам загорнутае ў пялёнку і куртку дзіця. На шчасце, на вуліцы не было вялікага марозу, і паўтарамесячная дзяўчынка-падкідыш аказалася жывая. Хуткая медыцынская дапамога, якая прыбыла на месца здарэння, даставіла знойдзенае немаўля ў дзіцячую гарадскую бальніцу. Пракуратура горада ўзбудзіла крымінальную справу і цяпер шукае бессардэчную маці-зязюлю.

## Пішыце пісьмы каханым!

У рэдакцыю прыйшло незвычайнае пісьмо. Яно было адрасавана аднаму чалавеку, якога завуць Андрэй. Але аўтар яго, семнаццацігадовая Насця М., вельмі прасіла, каб мы яго надрукавалі. Мы доўга думалі, ці трэба гэта рабіць, і ўсё ж прыйшлі да думкі: трэба! Бо якое свята можа быць ярчэйшым за каханне?

Больш таго, мы прапануўаем усім закаханым нашага рэгіёна напісаць пісьмо ці вершы свайму каханаму ці сваёй каханай. Гэтыя пісьмы мы апублікуем праз два тыдні — да дня святога Валянціна (адзначаецца 14 лютага). Нават фотаздымак, які вы далучыце да пісьма, таксама надрукуем.

Толькі, паважаныя закаханыя, адна ўмова! **Бясплатна мы надрукуем чатыры радкі (прыкладна 12—15 слоў) вашага пісьма. Астатнюю плошчу, якую зойме ваша пісьмо (вершы, фота), трэба аплачваць з разліку 20.000 рублёў за 1 квадратны сантыметр. Зрабіць аплату можна як на месцы ў рэдакцыі, так і па пошце пераводам грошай на адрас: рэдакцыі "Газеты для вас", вул. Леніна, 62, г. Івацэвічы, 225250.**

А пісьмо Насці М. свайму каханаму (у скарачэнні) мы друкуем сёння ў парадку выключэння.

### Ты перастаў кахаць?

Андрэй! Тры ночы я ўжо не сплю. Гляджу ў цёмнае вакно і думаю, думаю... Што здарылася, мой каханы? Чаму ты нават не глядзіш больш у мой бок? Ты перастаў кахаць мяне? Але я памятаю тваё прагныя вусны, іх незвычайны пах — і ніколі не паверу ў гэта. Сёння я праходзіла паўз месца, дзе мы пацалаваліся (на жаль, адзіны раз) і сэрца маё білася, білася. Няўжо тваё сэрца не адчувае смутку?

*Твая назаўсёды Насця М.*

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, С. КАЖАДУБ, А. ГОРБАЧ, А. ЛАЎРАНЮК (Івацэвічы), С. РУСЕЦКІ (Бяроза), М. КУЛІКОВА (Баранавічы), прэс-служба МА "Грамадзянскі форум" (Пружаны) і фотакарэспандэнт А. ГАНЧУК.*

●ЧТО ВОЛНУЕТ?

# Даешь экономическую стабильность!

***1. Что больше всего волнует вас сейчас? 2. Каково ваше отношение к подписанным президентами Беларуси и России 25 декабря 1998 г. в Москве документам? 3. Кого вы хотели бы видеть президентом РБ в будущем? С такими вопросами члены МО "Гражданский форум" обращались к прохожим на улицах города Пружаны. К сожалению, не многие согласились ответить. А ответы были разные:***

**Николай Б, безработный, 23 года:**

1. Конечно же, рост цен и отсутствие работы.

2. К подписанным документам отношусь нормально. Главное, чтобы наши ребята не воевали где-нибудь в России.

3. Не знаю. Позняка, наверное.

**Евгений Васюкевич, лидер МО "Гражданский форум" г. Пружаны, 20 лет:**

1. Да все волнует. Цены. Экономика в целом. Культура, наверное, больше всего. Ну, и современная молодежь.

2. Я за сотрудничество с Россией, но Беларусь должна быть независимым государством. Не надо нам их РНЕ, Жириновских. У нас своих хватает. Нам надо о себе думать, свою голову иметь. И прямиком в Европу. Но торговать Беларусью мы не дадим. Ни России, ни Польше.

3. В будущем я вижу РБ парламентской республикой. А если — президента, то прежде всего молодого, интеллигентного, уважающего родную культуру и историю. Такого, как в Польше или Литве.

**Светлана Г., предприниматель, 36 лет:**

1. Рост цен. Непомерные налоги. Будущее детей. Вот что меня волнует.

2. Отрицательно отношусь к союзу с Россией. Эти политики только и думают, что о себе. Особенно в России. Все продажные.

3. Да мне все равно, лишь бы не теперешний.

**Николай Иванович К., пенсионер:**

1. А вас что-то волнует? Меня ничего не волнует. Все нормально.

2. Отлично отношусь. Молодец президент. А то, что многие боятся, что их дети будут в России воевать, ничего страшного. Вот я тоже, когда молодой был, служил в Туркменистане. Ну, живой же.

3. Надо было избирать президента на 16 лет. А оппозицию посадить давно пора. Она на Запад нас тянет, в Европу. Мы же славяне, что нам там делать. В Россию нам надо, ребята, в Россию!

**Из этого опроса видно, что наш народ больше всего волнует рост цен. Да, в принципе, как тут не волноваться, если на зарплату среднюю в г. Пружаны можно только хлеба и молока купить...**

*Пресс-служба МО "Гражданский форум".*

г. Пружаны.

●НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Слухайце новую радыёстанцыю "АЛЬФА РАДЫЁ"

***Напрыканцы лютага—пачатку сакавіка ў беларускім FM-эфіры, на частаце 107,9 МГц, пачне працаваць новая радыёстанцыя "Альфа Радыё". Ужо да канца года яе вяшчанне маркуецца распаўсюдзіць на тэрыторыю ўсёй краіны.***

Як паведаміў праграмны дырэктар новай станцыі Сяргей Кузін, у склад яе заснавальнікаў увайшлі Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў, вытворча-камерцыйнае прадпрыемства і некалькі прыватных асобаў.

Інфармацыйная служба, якую ўзначаліць Іван Мірскі, будзе працаваць у "он-лайнавым" стылі (свежая навіна — прама ў эфір), без каментарыяў. Больш за сорак працэнтаў эфірнага часу інфармслужбы будзе ўдзелена інфармацыйнаму забеспячэнню недзяржаўнага сектара эканомікі.

## З 1 лютага пенсіі павялічацца

***Чарговы пераразлік усіх відаў пенсій будзе зроблены на Беларусі 1 лютага.***

Згодна з заканадаўствам, ён робіцца ў тым выпадку, калі рост сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых перавадольвае 15-працэнтны бар'ер. Гэты парог перайшла снежаньская зарплата, якая перавысіла лістападаўскую на 25 працэнтаў. Паводле дадзеных Міністэрства сацыяльнай абароны, сярэдні памер пенсіі ў лютым складае 3 мільёна 800 тысяч рублёў. Памер мінімальнай пенсіі, якая павялічыцца на 19,5 працэнта, разам з усталяванай урадам даплатай складзе 1 мільён 592,5 тысячы рублёў.

*БелаПАН.*

● ЭКАНАМІЧНЫ ТУПІК

# НА ДНЕ

***У адным калгасе Івацэвіцкага раёна... Хоць якая розніца, у якім калгасе пабывалі вашы рэпарцёр і фотакарэспандэнт. Тая тупіковая сітуацыя, пра якую пойдзе размова, склалася ў пераважнай большасці гаспадарак нашага рэгіёна. Хоць сцвярджаюць паслухмяныя газеты пра істотнае паляпшэнне жыццёвага ўзроўня людзей на весцы, хоць сцвярджаюць улады, што дзякуючы ім удалося спыніць развал, разбурэнне, дабіцца стабільнасці, але канкрэтныя факты сведчаць аб іншым. Гэтыя здымкі — сведчанне гаротнага стану вёскі.***

Пяць гадоў назад гэтая вялізная лазня ў вёсцы Магіліцы з забітымі зараз наглуха вокнамі, якую вы бачыце на верхнім здымку, з дзвюма парылкамі, басейнам, вялікім памывачным пакоем, працавала, а людзі, якія сюды прыходзілі, выходзілі бадзёрымі, памаладзеўшымі, адпачыўшымі.

З дзесятак гадоў таму ферма ў калгасе "Іскра" была запоўнена каровамі, маладняком, акуратна загароджана, мела дагледжаны выгляд. Сёння — выдраныя аконныя рамы, разбітае абсталяванне і поўнае запусценне (на здымку унізе).

Пяць-дзесяць гадоў таму на калгасным двары можна было сустрэць маладых, аптымістычных хлопцаў і дзяўчат, якія бачылі ў калгасе перспектыву ў набыцці жылля, добрым заробку і г. д. Сёння тут працуюць пенсіянеры і той дапіты і прапіты кантынгент, які больш нідзе не патрэбны.

Праўда, час ад часу папісваюць паслухмяныя барзапісцы, што ёсць, ёсць недзе працвітаючыя калгасы і саўгасы. У Брэсцкай вобласці пішуць, што на Магілёўшчыне, на Магілёўшчыне — што на Брэстчыне. Толькі, дзе канкрэтна, ніхто не распавядае.

Само ж унутранае жыццё вёскі, яе побыт нічым не змяніліся. Дзенідзе, праўда, пакладзены кавалкамі, ляжыць асфальт, але ў асноўным тыя ж умовы, што і дзесяцігоддзі назад. Гэтак жа цягаюць вяскоўцы ваду са студні, гэтак жа паляць у печы. Не маючы гарачай вады, мыюцца ў начоўках, ходзяць ноччу ў поўнай цемры па гразі, па слізгоце. Гэтак жа, ходзячы па баразне за плугам, садзяць бульбу, капаюць яе сырой восенню капачкамі. Гэтак жа эксплуатуюць іх няшчадна тыя, каго раней звалі панамі, а цяпер начальствам. Заробак жа вяскоўцы атрымліваюць такі, які не пажадаеш і ворагу.



Партыйныя артадоксы сцвярджаюць, што гэтае запусценне, заняпад ад таго, што развалiўся Савецкі Саюз і каб быў ён, то былі б, былі б лазні, шасейныя дарогі, заробкі. Неблагая, трэба прызнаць, адгаворка. Крайнія знойдзены. Але ж дзяржчыноўнікі сцвярджаюць, што ў сённяшняй сітуацыі на Беларусі ёсць відавочны прагрэс, стабілізацыя, рэзервы. Тады ў чым справа? Няўжо, каб давесці да ладу лазню дзенебудзь у Магіліцах, трэба аб'яднацца ў адну дзяржаву з Расіяй? Ці можа лепш проста падумаць аб тым канкрэтным вяскоўцу, павярнуцца да яго тварам, а не мянціць, прабачце, языком. А пакуль што маўклівая пакорлівасць селяніна і з'яўляецца казырнай картай у руках кіраўніцтва дзяржавы і падпарадкаваных ім інфармацыйных структур. Вясковец жа прамаўчыць, сцерпіць, яму добрага слова хопіць. Галоўнае, што пра яго нібы думаюць. І гавораць, гавораць. Але ж у вёсцы ніколі не паважалі пустых балбатуноў...

*А. МІХАЛЕНКА,*
*А. ГАНЧУК (фота).*

☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Новыя правілы перавозкі дзяцей

***— Ужо ў лютым сабраўся ехаць у Польшчу з малалетнім сынам. Але мне сказалі, што, каб браць з сабой дзяцей, патрэбна ў легкавой аўтамашыне нешта пераабсталёўваць. Ці не маглі б вы праз газету больш падрабязна расказаць аб гэтым?***

*Сяргей Іванавіч.*

*г. Баранавічы.*

Па тлумачэнні мы звярнуліся ў дзяржаўтаінспекцыю Івацэвіцкага райаддзела міліцыі. Вось што нам паведамілі.

Жыхары г. Івацэвічы, іншых населеных пунктаў раёна і вобласці, адпраўляючыся ў суседнюю Польшчу па запрашэнні ці проста на экскурсію або па пакупкі на ўласных легкавых машынах, здараецца бяруць з сабой дзяцей.

Тым, хто едзе да суседзяў, трэба абавязкова ведаць, што з 1 студзеня 1999 года ў Рэспубліцы Польшча ўведзена новае правіла. У адпаведнасці з ім непаўналетніх дзяцей у легкавых аўтамабілях трэба перавозіць у спецыяльных абсталяваных крэслах.

Дадзенае правіла ўведзена з мэтай прывядзення да адзіных правілаў, што тычацца бяспекі пасажыраў, якія дзейнічаюць у краінах Еўрапейскага Саюза.

Варта звярнуць увагу на тое, што польскім заканадаўствам не вызначана канкрэтнае ўзроставае абмежаванне дзяцей, да мяжы якога для іх у аўтамашыне павінны ўстанаўлівацца спецыяльныя дзіцячыя крэслы, аднак указана, што карыстацца гэтымі сядзеннямі неабходна ў тым выпадку, калі вага і рост дзіцяці не дазваляюць ім карыстацца рэмянямі бяспекі.

Кантроль за захаваннем дадзенага палажэння правіл дарожнага руху ўскладзены на органы паліцыі Рэспублікі Польшча. Яны ж маюць права штрафаваць тых вадзіцеляў, якія не выконваюць гэты пункт правілаў дарожнага руху. Не забывайце аб гэтым, паважаныя вадзіцелі.

●РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 28.01.99 г. (у тысячах руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 320—380 | 300—400 | 330—350 | 370 |
| Сала салёнае | 360 | 360 | 370 | 290—310 |
| Алей (1 л) | 220—330 | 350 | 240—250 | 250—310 |
| Яйкі | 90—100 | 80—100 | 80—100 | 85—110 |
| Малако (3 л) | 40 | 50—60 | 45 | 40 |
| Тварог | 60 | 70 | 60 | 65 |
| Масла сметанк. | 240 | 250 | 240 | 210—240 |
| Цыбуля рэпч. | 150 | 120—160 | 75 | 50—70 |
| Капуста | 10—15 | 20—40 | 15—25 | 15 |
| Бульба | 12—15 | 15—20 | 15—20 | 15—17 |
| Морква | 15 | 15—20 | 15 | 15 |
| Часнок | 200 | 200 | 200 | 120—150 |
| Яблыкі | 80—110 | 80—120 | 100—130 | 70—100 |
| Лімоны | 380 | 290 | 290 | 360—450 |
| Апельсіны | 270 | 240—290 | 270 | 260—310 |
| Бананы | 330 | 270 | 320 | 310 |
| Грэчка | 130 | 140 | 130 | 160 |
| Макар. вырабы | 110 | 90—110 | 110 | 110—130 |
| Рыс | 170 | 170 | 150—170 | 180 |
| Цукар | 110 | 110 | 110 | 120 |
| Мёд | 600 | 600—800 | 500—600 | 650 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ**

*(у тысячах рублей)*

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 290 | 310 | 290 | 310 | 290 | 310 | 280 | 320 |
| 1 дойчмарка | 165 | 175 | 165 | 175 | 165 | 175 | 165 | — |
| 1 рубель Расіі | 11 | 13 | 11 | 14 | 11 | 13 | 11 | 14 |

● КОЛЬКІ МЫ ПЛАЦІМ

# Цэны і паслугі

**Рытуальныя паслугі**

| | |
|---|---|
| помнік нябожчыку | — 15 мільёнаў рублёў |
| фота на помнік | — 1 мільён 94 тысячы; |

**Ветлячэбніца**

| | |
|---|---|
| прафіл. вакцынацыя чумкі | — 150—350 тысяч; |

**Бальніца**

| | |
|---|---|
| УЗІ (без прызначэння ўрача) | — 190 тысяч; |

**Дыскатэка (ГДК)**

| | |
|---|---|
| плата за ўваход | — 40 тысяч; |

**Раённае радыё**

| | |
|---|---|
| віншаванне | — 160 тысяч; |

**Сувязь (тэлефонныя размовы)**

| | |
|---|---|
| адна хвіліна з Украінай | — 38000 |
| Казахстанам | — 70000 |
| Літвой | — 49000 |
| Латвіяй | — 49000 |
| Польшчай | — 42000 |
| Расіяй (еўрапейская зона) | — 42000 |
| Расіяй (азіяцкая зона) | — 50000 |
| ЗША | — 129000 |

